КОШТ 40 КАП.

# СВАБОДА

№ 3 — 4 ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА ● ТРАВЕНЬ 1990

МЫ ЦУДОЎНА РАЗУМЕЕМ, ШТО ІСНАВАНЬНЕ НЕЗАЛЕЖНЫХ БАЛТЫЙСКІХ РЭСПУБЛІК ЦЕСНА ЗЬВЯЗАНАЕ З МАГЧЫМАСЬЦЮ НАШАГА ВЫЗВАЛЕНЬНЯ І ТАМУ БЕЛАРУСКАМУ РУХУ ДАРАГАЯ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ КОЖНАЙ З НОВАСТВОРАНЫХ РЭСПУБЛІК, ЯК ЗАРУКА СВАЙГО Ў БУДУЧЫНІ РАСПРЫГОНУ.

Вацлаў ЛАСТОЎСКІ. 1924

## ГОМЕЛЬ, 26. IV, СТРАЙК

Яшчэ ў канцы сакавіка ў Гомлі на ВА «Гомсельмаш» і радыёзаводзе былі створаныя страйковыя (забастовачныя) камітэты, якія патрабавалі неадкладна выдзеліць грошы з саюзнага бюджэту на ліквідацыю наступстваў аварыі і ўзбудзіць судовую справу супраць кіраўнікоў рэспублікі, вінаватых у бязьдзеяньні ды замоўчваньні праўды пра Чарнобыль. Рабочыя патрабавалі таксама кампэнсацыйных даплатаў за падарванае радыяцыяй здароўе.

26 красавіка а 7.00 калектывы «Гомсельмаша» (35 тыс. працоўных), радыёзавода (8 тыс.) і завода імя Кірава (8 тыс.) пачалі страйк. З 11 да 13.00 на тэрыторыі гэтых заводаў прайшлі мітынгі. Адначасна больш за 20 працоўных калектываў Гомля правялі дзьвюхгадзінавыя страйкі салідарнасьці ды прынялі рэзалюцыі ў падтрымку рабочых «Гомсельмаша».

А 17.00 народ пачаў зьбірацца на цэнтральную плошчу Гомля на агульнагарадзкі мітынг. Работнікі «Гомсельмаша», радыёзавода й завода імя Кірава рушылі на плошчу ад сваіх прахадных калёнамі праз увесь горад. Заяўку на мітынг

(Далей глядзі стар. 5)




Гомель, 26. IV, пл. Леніна. Фота К. Войгкі.

## ХТО БУДЗЕ ПРЭЗЫДЭНТАМ БЕЛАРУСІ?

Па Менску ходзяць чуткі: Масква дазволіла ўвесьці на Беларусі прэзыдэнтуру, а Прэзыдэнтам Рэспублікі маецца стаць Яфрэм Сакалоў.

Сымболь дзяржавы, чалавек, які стаіць панад партыямі і хаўрусамі, дбае пра дабро народа, нацыі. Вось кім хоча стаць таварыш Сакалоў. Уяўляеце сабе такое? Уяўляеце сабе Прэзыдэнта Казахстану, які ня ўмее зьвязаць і двух казахскіх слоў? Уяўляеце сабе Прэзыдэнта Польшчы, які выдае дэкрэт супраць нацыянальнае сымболікі?

Толькі ў нас магчымае такое. І калі сапраўды паўстане пытаньне ў Вярхоўным Савеце Рэспублікі аб прэзыдэнтуры, агрэсыўна-паслухмяная большасьць прагаласуе «за».

Як паставяцца да гэтага дэмакратычныя дэпутаты?

Сакалоў увойдзе ў гісторыю ўжо тым, што ён раней за Ягора Лігачова і Палітбюро ЦК КПСС пачаў паляваньне на вядзьмарак у сваёй роднай партыі. Гэта зь яго ласкі яшчэ перад канфэрэнцыяй камуністаў-дэмакратаў было аб'яўлена аб барацьбе зь імі. Згадайце, як у 1988 годзе пасьля адпаведнага ўказаньня міліцыя ўварвалася ў прыватную кватэру і пахапала «нефармалаў», у тым ліку камуністаў, камсамольцаў. Калі гэты чалавек ідзе на канфрантацыю зь іншадумцамі ў сваёй партыі, як ён можа выявіць тую талерантнасьць, што патрабуецца ад Прэзыдэнта? Як ён паставіцца да іншадумцаў па-за КПБ?

(Далей глядзі стар. 14)

МІКАЛАЙ СЕРДЗЮКОЎ:

# ФОРМУЛЫ

Калі на другім зьезьдзе народных дэпутатаў СССР абмяркоўвалася пытаньне пра выбары ад грамадзкіх арганізацый, з прэзідыюма было сказана колькі слоў пра пазіцыю беларускай дэлегацыі. Маўляў, яна выступае ЗА такія выбары, бо рашэньне пра іх ПРЫНЯТА У РЭСПУБЛІЦЫ. Хто ўважліва сачыў за зьездам, той ня мог не падумаць: наўрад, каб усе дэпутаты зь Беларусі выступалі за такое рашэньне, хутчэй за ўсё, у прэзідыюме зьезда ўлічылі думку некага з нашых кіраўнікоў.

Хто ж павінны быў у такім разе абвясьціць пра «недакладнасьць»? Ды кожны дэпутат. Калі дэлегацыя разам не зьбіралася і аднадушна не галасавала, то нават згодны са сказаным мусіў падняцца і... Але лёгка было зразумець, што КОЖНЫ пратэставаць ня будзе. Я загадаў некалькі прозьвішчаў, хто МОГ БЫ. І не памыліўся. Пратэставаў дэпутат Шушкевіч.

За кароткі час стала вядома, хто з дэпутатаў на што здатны.

Яшчэ лепш ведаем мы адно аднога кожны ў сваім асяродзьдзі. І тых людзей, якія не хаваюць сваёй пазіцыі, і іншых, добрых быццам бы навукоўцаў, рабочых, мэханізатараў, якія звыклі падтакваць начальству і не вытыркацца.

МАЎЧАНЬНЕ — ЗОЛАТА. НЕ ПАМЫЛЯЙСЯ, ПАДТАКВАЦЬ ТРЭБА МОЦНАМУ.

Вучэньне пра тое, што навуковы сьветапогляд выпрацоўваецца асобнымі правадырамі і ўносіцца ў масы, нічога кепскага не нарабіла, пакуль уносілася шляхам свабоднае прапаганды. Але сьледам прыйшоў гвалт. «Сьвядомасьць» людзей забясьпечвалі кулі, лягеры, эфэктыўнасьць агітацыі і прапаганды гарантавалася страхам сьмерці або зьняволеньня.

Пачварны варыянт дыктатуры прадэманстраваў у нашыя дні рэжым Чаушэску ў Румыніі. Падземны горад пад Бухарэстам, адкуль наяўляюцца атрады янычараў. Удумайцеся ў фразу карэспандэнта: баі ідуць у раёне плошчы Перамогі сацыялізму...

Хто ўжо ня зьдзекваўся з мары людзей пра лепшы лад жыцьця!

Уведаўшы стандарт, які мог іншы раз выратаваць, чалавек прывыкаў галасаваць ЗА, ухваляць і ў натоўпе-сходзе патрабаваць расправы над «ворагамі народа».

ГАЛОЎНАЕ — КАБ БЫЛІ ВОРАГІ.

Вельмі зручна з гэтага пункту гледжаньня расшчапіць грамадзтва на неантаганістычныя клясы з праслойкай. Спачатку ўладалюбцы быццам бы на карысьць рабочым гвалтуюць сялянства, потым «аддаюць сялу даўгі», адначасова сыкаючы ў бок інтэлігенцыі, якая «сваёй навукай» ня здольная забясьпечыць высокія ўраджаі. Хто на каго больш злы?

А бюракрат надзімаецца пыхай, мірыць, разьмяркоўвае даброты, натуральна, крыўдзячы сябе. І выдумляе новую формулу: «СЯЛЯНЕ НЯ ВОЗЬМУЦЬ ЗЯМЛЮ!» Вушлыя людцы падхопліваюць, і нясецца ад Масквы да самых да акраін: «Ня возьмуць, ня возьмуць!» Вось ужо й даваць ня трэба.

Чаму мы такія чуйныя да формул, да самых банальных стандартаў і стэрэатыпаў? Дзе незалежнасьць нашага мысьленьня?

Далёка тая незалежнасьць, бо сталіншчына не жартавала. І брэжнеўска-суслаўская прапаганда не пазьбягала зьняволеньня для няскорaных, ня гідзілася бясконцымі бытавымі ганеньнямі. Па-ранейшаму заўзята працягвала яна разьядноўваць людзей.

Пад сьцягам паглыбленьня спэцыялізацыі ўва ўсім, што датычыць грамадзкага ладу, яна адсякала тэарэтыкаў ад жыцьця, аддала ім на водкуп нейкую абстрактную гульню ў межах згульнай дактрыны. А на вочы тэарэтыкам, як каням, што ходзяць кругамі вакол жорнаў, былі надзетыя шоры. Каб не зва'яцелі.

Формула такая: ХТО ЎЛІЧВАЕ ЖЫЦЬЦЁВЫЯ РЭАЛІІ — РЭВІЗІЯНІСТ.

Прынцып разьдзяленьня праведзены і ў сфэры культуры. Зноў формула: НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ПА ФОРМЕ, САЦЫЯЛІСТЫЧНАЯ ПА ЗЬМЕСЬЦЕ. У такой формуле шмат каму зацішна, сытна, толькі «нацыянальнае» без беларускага зьместу чамусьці сталася рускім.

А вось сказаць пра гэта было нельга. Па-першае, САЦЫЯЛІСТЫЧНЫ РЭАЛІЗМ перашкаджаў (проста рэалізму нашаму грамадзтву мала). Па-другое, ёсьць яшчэ жупел НАЦЫЯНАЛІЗМУ. Загаварыў пра тое, што беларусам баліць, — нацыяналіст.

Літоўскі парлямэнт, напрыклад, абвяшчае рэспубліку незалежнай дзяржавай, але гэта ня можа быць правільным. НАРОДЫ, ЯКІЯ ЗМАГАЮЦЦА ЗА НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ, НЕ РАЗУМЕЮЦЬ, ШТО РОБЯЦЬ.

Новы жупел — ЖУПЕЛ ЭКСТРЭМІЗМУ.

Успомнім яшчэ раз калгасы.

Ці не безразважныя левакі, ці не экстрэмісты правялі сталінскую калектывізацыю? То за каго лічыць людзей, якія ахоўваюць сістэму, створаную экстрэмістамі? Самі сябе яны клічуць разважлівымі, а тых, хто выступае за розныя формы ўласнасьці, ганьбяць як экстрэмістаў.

ВАЛІ З ХВОРАЙ ГАЛАВЫ НА ЗДАРОВУЮ.

Нацыі без адзінства эканамічнага жыцьця не бывае, эканоміка змацоўвае гарады і вёскі, як цэмент цагліны. А галіновая структура зь міністэрствамі ў Маскве заўсёды імкнулася стварыць новую нацыю — савецкі народ (тут навукоўцы застойнага пэрыяду мелі рацыю), затое разрывала рэспубліку на тысячы ведамасных нарыхтоўчых кантор. Таму, калі зьявілася ідэя рэспубліканскага гасразьліку, зьявілася і ўпартае жаданьне цэнтра зьвесьці яго на драбніцы. ГАСРАЗЬЛІК БЕЗ РЭСПУБЛІКАНСКАЙ УЛАСНАСЬЦІ НАВАТ НА ТОЕ, ШТО НАЗЫВАЕЦЦА ПРЫРОДАЙ — новая формула, якой

(Далей глядзі стар. 5)

МІКАЛАЙ РАДЗІЕУСКІ

# КАЛГАС — ГЭТА ПРЫГОН

Калі ў 1861 годзе расейскі цар Аляксандар II адмяніў прыгон, шмат хто паверыў, што гэта — назаўсёды. Здавалася, што ніхто й ніколі ўжо ня здолее прымусіць беларускіх сялянаў працаваць з-пад палкі на зямлі, якая належыць ім толькі фармальна, і атрымліваць за гэта ўсяго столькі, колькі трэба, каб не памерці з голаду...

Што ж здарылася ў пачатку XX стагоддзя? Чаму і як (насуперак усялякай эканамічнай мэтазгоднасьці) быў адроджаны ў форме калгасаў ды саўгасаў прыгон у беларускай вёсцы? Навошта гэта было зроблена? Чаму, ня гледзячы на тое, што калгасы ўжо даўно і пераканаўча даказалі сваю поўную эканамічную ды сацыяльную нямогласьць, яны дагэтуль не распушчаныя? Каму, нарэшце, выгаднае існаваньне ў канцы XX стагоддзя самых махровых формаў фэадалізму ў беларускай вёсцы?

Найперш высьветлім, што трэба разумець пад прыгонам, і наколькі паняцьце «прыгон» стасоўнае для характарыстыкі адносінаў у беларускай вёсцы ў савецкі пэрыяд.

Пад прыгонам у навуковай літаратуры звычайна разумеецца сукупнасьць юрыдычных нормаў фэадальнае дзяржавы, якія замацоўваюць найбольш поўную ды жорсткую форму сялянскай залежнасьці. Прыгон уключаў: 1) забарону сялянам сыходзіць з сваіх зямельных надзелаў; 2) пазбаўленьне сялянаў права купляць і прадаваць зямельныя надзелы і нерухомасьць; 3) перавагу неэканамічных формаў прымусу да працы. Прыгоньніцтва трымалася досыць моцнай дзяржаўнай уладай, здольнай рэалізаваць асноўныя ягоныя нормы. Таму адной з абавязковых умоваў існаваньня прыгону ў поўным аб'ёме заўсёды было цэнтралізаванае дзяржаўнае кіраваньне.

Ці былі і ці ёсьць пералічаныя мною прыкметы прыгону ў сельскай гаспадарцы Савецкай Беларусі? Так, былі і ёсьць.

Адразу пасьля захопу ўлады бальшавікі правялі нацыяналізацыю зямлі, у выніку чаго сяляне былі пазбаўленыя права купляць і прадаваць зямельныя дзялкі (што цалкам адпавядае другой прыкмеце прыгону). Потым сяляне змусам былі сагнаныя ў калгасы — было праведзенае «сацыялістычнае пераўтварэньне» сельскай гаспадаркі. А хто не захацеў у калгас, той не пазьбегнуў дарогі ў Курапаты... У калгасе — працуй дзеля сьветлае будучыні ад зары да зары, а замест заробленага хлеба атрымлівай на працадні толькі палачкі. Ня хочаш? — Тады ізноў табе адна дарога — у Курапаты. Вось вам і трэйцяя прыкмета прыгону.

Але ж не такія ўжо дурныя беларусы, каб у гэткіх умовах не імкнуцца сыйсьці зь вёскі... Каб не дапусьціць гэтага (а хто тады будзе карміць горад?), савецкая ўлада не давала ім пашпарты, а бяз пашпарту ва ўмовах жорсткай пашпартнай сістэмы нікуды ня дзенесься. Вось вам і яшчэ адна прыкмета прыгону — забарона сялянам сыходзіць з сваіх зямельных надзелаў.

Такім чынам, мы высьвятляем, што прыгон і сапраўды адрадзіўся на Беларусі пасьля кастрычніка 17-га года. Але ці ж выпадкова гэта адбылося? Ці маглі бальшавікі пасьля захопу ўлады даць сялянам што-небудзь іншае? Наўрад ці.

У свой час Маркс, Энгельс, Ленін ды іншыя марксісты распрацавалі дастаткова пасьлядоўную і ў аснове сваёй зусім рэальную праграму заваёвы пралетарыятам палітычнага ды эканамічнага панаваньня ў грамадзтве. Заўважу: ня трэба блытаць рабочую клясу і пралетарыят, бо пралетарыят уключае ў сябе толькі нізкакваліфікаваную і некваліфікаваную частку рабочае клясы і безмаетнага сялянства. Ня будучы ўласьнікам, пралетарыят ва ўсе часы гатовы да любых «рэвалюцыйных» пераўтварэньняў грамадзтва, губляць яму няма чаго, а любы маёмасны перадзел можа павялічыць колькасьць матэрыяльных дабротаў, якія ён спажывае. Ідэал гэтых людзей — гэта грамадзтва ўсеагульнай роўнасьці ў спажываньні (а ў ідэале для кожнага асобна ўзятага прадстаўніка гэтае клясы — яго асабістае неабмежаванае спажываньне) пры няроўнасьці ў працы. Менавіта гэты аспэкт у марксісцкай мадэлі рая зямнога і прывабіў тых, хто пры разьмеркаваньні матэрыяльных дабротаў павінен быў абавязкова выйграць. Інакш кажучы, тых, хто ня мог ці не хацеў рабіць у поўную сілу, займацца грамадзка-значнай працай і атрымліваць за гэта істотнае матэрыяльнае ўзнагароджаньне. А якраз такой працай у дарэвалюцыйны пэрыяд займаліся кваліфікаваныя заводзкія рабочыя (іх заробак у сярэднім складаў 3 рублі ў дзень, што ў перакладзе на сучасныя грошы будзе больш за 40 рублёў), інжынеры, настаўнікі, рознага роду арганізатары грамадзкае вытворчасьці, у тым ліку і буржуазія, і г. д. Менавіта гэтыя групы насельніцтва і зьяўляліся ў той час рэальнымі носьбітамі сацыялістычных эканамічных інтарэсаў, бо выступалі за прынцып «кожнаму па працы».

Такім чынам, насуперак шырока распаўсюджанай думцы, марксісцкая ідэалягічная дактрына выражае інтарэсы нават ня ўсёй рабочай клясы (ня кажучы ўжо пра тое, што яна ніколі не выражала інтарэсы ўсіх працоўных), а толькі яе пралетарскій часткі.

(Далей глядзі стар. 4)

# КАЛГАС—ГЭТА ПРЫГОН

(Працяг са стар. 3)

Эканамічным інтарэсам пралетарыяту цалкам адпавядала марксісцкая ідэя поўнага пераадоленьня дробнай прыватнай вытворчасьці на зямлі, ператварэньня селяніна ў сельскагаспадарчага рабочага, ідэя буйных фабрык на зямлі... Тым больш, што на практыцы гэта дазволіла расфарбаваць ружовым колерам палітычную сістэму часоў культу асобы зь яе масавымі рэпрэсіямі, негуманнасьцю і прымітыўным тэхнакратычным падыходам, сістэму, якая прадставіла сьвету апафэоз палітычнага панаваньня пралетарыяту.

Пралетарскія элементы горада і вёскі, на чале з бальшавіцкай партыяй, пасьля захопу ў свае рукі палітычнае ўлады ўсталі перад неабходнасьцю стварэньня рэальнага гаспадарчага механізму, які дазволіў бы ім эксплуатаваць усё астатняе грамадзтва. У беларускай вёсцы было вырашана прымяніць палітыку калектывізацыі. Гэтая палітыка як найлепей адпавядала казарменнаму, ураўняльнаму, жабрацкаму сацыялізму, які быў збудаваны ў 30-я гады.

Такая жорстка-іерархічная, бязрыначная мадэль савецкага грамадзтва непазьбежна вяла да ператварэньня пралетарскай дзяржавы ў партыйна-бюракратычную. У выніку трох расейскіх «рэвалюцыяў» здарылася тое, пра што ў свой час пісаў ідэоляг народніцтва П. Лаўроў: «Гісторыя даказала, і псыхалёгія пераконвае нас, што ўсялякая неабмежаваная ўлада, усялякая дыктатура псуе самых лепшых людзей і што нават геніяльныя людзі, думаючы ашчасьлівіць народы дэкрэтамі, не маглі гэтага зрабіць. Кожная дыктатура мусіць атачаць сябе прымусоваю сілай, сьлепа падпарадкаванаю зброяй; кожнай дыктатуры даводзілася гвалтам душыць ня толькі рэвалюцыянераў, але й людзей, якія проста нязгодныя зь яе дзеяньнямі; кожнай дыктатуры давялося патраціць больш часу, намаганьняў, энергіі на барацьбу за ўладу з супернікамі, чым на ажыцьцяўленьне сваёй праграмы з дапамогай гэтай улады. А вось пра скасаваньне дыктатуры, якая гвалтам захоплена якой-небудзь партыяй (г. зн. пра тое, што дыктатура паслужыць толькі «зыходным пунктам рэвалюцыі»...), можна марыць толькі да яе захопу: у барацьбе партыі за ўладу пры ўзьнікненьні тайных і яўных інтрыгаў, кожная хвіліна выклікае новую неабходнасьць захаваць уладу, выклікае новую немагчымасьць пакінуць яе».

У выніку ўсяго гэтага беларуская вёска на многія дзесяцігоддзі трапіла ў прыгон да жорстка-цэнтралізаванай партыйна-бюракратычнай дзяржавы. Мінуў час. Зьмякчаліся формы савецкага прыгону, але й да сёньня беларуская вёска амаль на сто працэнтаў калгасна-саўгасная.

Ці ня час нарэшце беларусам зразумець, што ператварэньне селяніна ў рабочага, які працуе па пляне на адной вялікай нацыянальнай фабрыцы, не зьяўляецца найвялікшым прагрэсам, а толькі служыць прыкрыцьцём няспыннага рабаўніцтва саюзнымі партыйна-бюракратычнымі ведамствамі беларускай вёскі?

Ці ня час нарэшце беларусам зрабіць выснову, што сялянская арганізацыя працы, якая аб'ядноўвае ў адзінае цэлае побыт, вытворчасьць і сямейны агмень, зьяўляецца не анахранізмам, а натуральнай матэрыяльнай і духоўнай асноваю народа?

Ці ня час урэшце беларусам дамагчыся аднаўленьня прыватнае ўласнасьці на зямлю, а таксама поўнага ды найхутчэйшага роспуску калгасаў і саўгасаў?

Ці ня час зразумець, што мы, беларусы, створаныя не для таго, каб цешыць сябе думкай, што мы будуем «унікальную» і «нетрывіяльную» эканоміку; і не для таго, каб зьдзіўляць увесь сьвет сваёй здольнасьцю цярпець нягоды і сьлепа рушыць наперад за камуністычнымі ідэолягамі, а для таго, каб жыць па-людзку і людзьмі звацца?

# ПАДЗЕІ

Рэакцыя на незалежнасьць Літвы зусім не такая адназначна негатыўная, як відаць з маскоўскіх ды менскіх афіцыйных газэт. Вось пункт 10 ухвалы, якая прынятая 26 красавіка на трохтысячным мітынгу ў Нароўлі:

«Лічым непраўамерным рашэньне ўраду рэспублікі пра перадзел мяжы зь Літвою». Тут жа выказваюцца патрабаваньні закрыць ЧАЭС, ліквідаваць райкам, зарэгістраваць БНФ, адклікаць нар. дэпутатаў СССР В. Балуева, Н. Фяськова, М. Сьлюнькова і А. Камая...

* * *

А вось Зварот да М. Гарбачова прадстаўнікоў нац. меншасьцяў Літвы: палякаў, рускіх, татараў, малдаван, габрэяў, грузінаў, украінцаў, армянаў ды іншых:

«Мы, грамадзяне Літвы розных нацыянальнасьцяў, рашуча пратэстуем супраць умяшальніцтва войскаў СССР у грамадзка-палітычнае жыцьцё Рэспублікі, захопу будынкаў і памяшканьняў, гвалту ў адносінах да мірных жыхароў, што прыводзіць да нагнятаньня абстаноўкі ў Літве і вакол яе.»

Ад Беларускага культурнага таварыства ў Літве гэты Зварот падпісала сяброўка Сойму БНФ віленка Хрысьціна Балаховіч.

* * *

У Менску на X зьезьдзе Саюза пісьменьнікаў Беларусі быў падпісаны Зварот да пісьменьнікаў Літвы і літоўскага народу:

(Далей глядзі стар. 9)

# ФОРМУЛЫ

(Працяг са стар. 2)

трэба кіравацца, каб захаваць усё па-старому. Спасылацца пры гэтым можна на інтэграцыю ў Заходняй Эўропе, нібыта кожная зь дзяржаваў агульнага рынку адмовілася ад свае ўласнасьці нават на зямлю і ня мае на сваёй тэрыторыі адзінства эканамічнага жыцьця.

Не, калі нацыя ёсьць, то яна ніводнай сваёй функцыі не перадавярае іншым. Давайце аддамо ў чужыя рукі хоць бы і клопаты пра энэргетыку. А потым яшчэ адзін Чарнобыль выбухне... Хопіць, каб загінуць нацыі?

ДРУГОГА ЧАРНОБЫЛЯ НЯ МОЖА БЫЦЬ, БО ЯГО БЫЦЬ НЯ МОЖА.

А вось РАДЫЯФОБІЯ, на думку маскоўскіх атамшчыкаў, на Беларусі ёсьць.

Формулы, формулы, мёртвыя формулы... Здаецца, уся ноасфэра складаецца зь іх. Ці будзе ў нас дастаткова людзей, якія б за гонар лічылі мець незалежнае масьленьне? Рабочых, сялянаў, мастакоў, інжынераў... Чаму нельга кіравацца толькі здаровым сэнсам, не зважаючы на стэрэатыпы? Рабочым, сялянам, мастакам, інжынерам... Зрэшты, усім. Вунь, як ні дзіўна, у Румыніі ў кабінет нацыянальнага выратаваньня разам з палітыкамі ўвайшлі паэты, пісьменьнікі...

А можа, ня дзіўна? Не ад роду заняткаў залежаць сорам, сьмеласьць, годнасьць. Як паведамлялася, міністар абароны Румыніі адмовіўся аддаць загад страляць у народ і сам загінуў. Я не паэт, але...

— Страляць не бяруся! —
Сказаў нескарона,
Сам кулі дыктатарскай
Чуючы сьвіст...
Як будзе на мірнай
Маёй Беларусі
Высокі ды стройны
Міністр абароны,
Хай будзе душой
Як румынскі міністр!

І міністры, і невялікія чыноўнікі патрэбныя ня з племені падтакачоў... Якраз тады, калі ў Румыніі ішлі баі за свабоду, карэспандэнт беларускай праграмы «Радыёкантакт» затэлефанаваў у Міністэрства фінансаў БССР. Хацеў даведацца, чаму кіраўнічы апарат, у чарговы раз дзелячы ўсе цяжкасьці з народам, падвысіў сабе аклады. Тэлефонныя званкі трансляваліся на ўсю рэспубліку, але два чыноўнікі, да якіх удалося дазваніцца, адказаць адмовіліся.

БЫЦЬЦЁ ВЫЗНАЧАЕ СВЯДОМАСЬЦЬ.

# ГОМЕЛЬ, 26. IV, СТРАЙК

(Працяг са стар. 1)

падавалі Гомельская Рада БНФ і Гомельскі клюб выбаршчыкаў (ГКВ). Але з-за кампрамісная пазіцыі ГКВ мітынг праводзіўся на парытэтных з гарадзкімі ўладамі пачатках.

Між тым, настрой людзей быў адназначны. Лёзунгі «Паміж партыяй і народам лёг Чарнобыль» ці «Няхай жыве ЦК КПСС на Чарнобыльскай АЭС» — яскрава адлюстроўвалі пазіцыю большасьці ўдзельнікаў мітынгу. Паўсюдна луналі бел-чырвона-белыя беларускія сьцягі. Нягледзячы на аптымістычныя выступы народных дэпутатаў Ю. Варонежцава ды В. Карніенкі, бальшасьць прамоўцаў расцаніла вынікі разгляду Чарнобыльскага пытаньня на сэсіі Вярхоўнага Савета СССР як плявок у твар беларускаму народу. На мітынгу была прынятая рэзалюцыя з патрабаваньнем адсяленьня, грашовых кампэнсацыяў, чыстых прадуктаў, экалягічнага кантролю і г. д. Была ўхваленая і асобная рэзалюцыя, зь якой выступіў прадстаўнік Гомельскай Рады БНФ: «У выпадку невыкананьня патрабаваньняў насельніцтва забруджаных тэрыторыяў, — гаворыцца ў рэзалюцыі, — патрабаваць аддзяленьня Беларусі ад СССР і, улічваючы, што БССР — член ААН, прасіць садзеяньня міжнароднае грамадзкасьці ў атрыманьні ад СССР кампэнсацыі ад Чарнобыльскае катастрофы».

Мітынг скончыўся а 20.00, пасьля чаго каля тысячы чалавек рушылі да будынку абкаму КПБ з мэтай масавай здачы партыйных і камсамольскіх білетаў, але на подступах да абкаму іх спынілі кардоны міліцыі, і, пасьля нядоўгага процістаяньня, людзі разыйшліся. А 24.00 скончыліся страйкі на «Гомсельмашы», радыёзаводзе й заводзе імя Кірава.

І яшчэ некалькі штрыхоў. Перад выбарамі па ініцыятыве дэпутатаў Варонежцава і Карніенкі быў створаны Гомельскі клюб выбаршчыкаў, у які дзеля каардынацыі дзеяньняў і кансалідацыі сілаў увайшлі ўсе дэмакратычныя аб'яднаньні. Гомельская Рада БНФ, якая таксама далучаецца да дзейнасьці клюбу, адрозьніваецца згуртаванасьцю, радыкалізмам і нацыянальна - адраджэнскім характарам. На 26 красавіка з 81 дэпутата, абранага ў Гомельскі гарсавет, 47 — сябры БНФ і ГКВ. Яны ўтварылі супольную фракцыю і рыхтуюцца пад час першай сэсіі ўзяць уладу ў горадзе ў свае рукі.

На 26 красавіка ў Гомлі створана больш за 20 страйковых камітэтаў, у склад якіх увайшло шмат сяброў БНФ і ГКВ. 12 траўня адбудзецца канфэрэнцыя страйковых камітэтаў Гомля і вобласьці, дзе будзе абмяркоўвацца плян наступных дзеяньняў.

Віктар ІВАШКЕВІЧ.

P.S. Як паведаміў нам з Гомля Алесь Яўсеенка, першамайскіх сьвятаў у горадзе фактычна не было.

# Што скажуць Буш і Кебіч?

Small is beautiful, малое ёсьць прыгожае, — кажа сучасная амэрыканская прымаўка. Яно так: прагрэс эканомікі Штатаў забясьпечваюць зараз пераважна малыя й сярэднія фірмы — дзякуючы сваёй сабранасьці, рухомасьці. Падворак парадкаваць лягчэй, чымся бязьмежны пляц Леніна...

Я да таго, што імпэрыя ўсё адно разваліцца. Але Гарбачоў гэтага не зразумее, бо адзіны забабон, якога ён не пазбудзецца ніколі, — гэта расейскі імпэрскі забабон. Гісторыя будзе няўмольная.

У гісторыі Літвы ўжо быў эпізод, калі сувязі зь імпэрыяй гвалтоўна перапыніліся: Літву аддзялілі ад Савецкага Саюзу пас Віленшчыны пад польскаю ўладай. І што ж? Італьянскі пісьменьнік Джузэпэ Сальваторы, параўноўваючы свае падарожжы ў Коўна ў 1923 і 1931 гадох, шчыра захапляецца гэтак хутка папрыгажэлаю, адбудаванаю, заможнаю Літвой. Яна тады апэратыўна пераарыентавалася на новыя рынкі, і ўведзеная ў 1922 годзе ўласная валюта да канца існаваньня першае Літоўскае Рэспублікі заставалася адной з найбольш цьвёрдых у Эўропе.

Блякада паспрыяе Літве, бо прымусіць яе ня толькі навучыцца быць па-эўрапэйску эканомнай, але і тэрмінова перачапіць гаспадарку да лякаматыву рынку, шукаць шчыліны ў рынках збыту іншых краінаў, замацоўвацца—пастолькі, паколькі Усход як рынак будзе адрэзаны блякадаю. А ці ж паспрыяе блякада Беларусі?

Нягнуткая, жорсткая сыстэма ўзаемапаставак прадукцыі каторы раз вылезла бокам для яе стваральнікаў: у выніку аблогі Літвы церпіць эканоміка Савецкага Саюзу. Рынку няма, зьмяніць літоўскіх пастаўшчыкоў на іншых немагчыма — часьцей таму, што іншых у СССР няма. У выніку спыняюцца цэлыя вытворчасьці. Церпіць ад мудрай выхаваўчай палітыкі ўсепралетарскага таты ня толькі літоўскі рабочы, але і расейскі, украінскі, татарскі, армянскі. Паводле ацэнкі літоўскіх эканамістаў, імпэрыя страціць на блякадзе парадку 10 — 15 млрд. руб. (Нагадаю, што Беларусі на адсяленьне людзей з забруджаных земляў пільна трэба 17 — 20 млрд. руб.).

Церпіць і беларуская эканоміка. Бяз паліва й сыравіны, у варунках чыгуначнага байкоту літоўцы спыняюць вытворчасьць і ветліва просяць у нашых прадпрыемстваў прабачэньня. Вынікі гэткія. Віленскі завод «Куро апаратура» болей ня шле паліўнага абсталяваньня дзеля трактараў МТЗ, дзе браць яго — няма ведама. Ковенскае аб'яднаньне «Дробе» не дае тканіну беларускай лёгкай прамысловасьці, а мясцовая прамысловасьць Беларусі амаль цалкам залежыць ад паставак зь Літвы. Мае праблемы Менскі завод лядоўняў (халадзільнікаў). Папярэджваю чытачоў, што, хоць Вялікдзень мінуў, могуць апынуцца дэфіцытам яйкі. Рэч у тым, што няхітрыя ўпаковачныя кардонкі пад яйкі (імі яшчэ рок-музыканты любяць аббіваць свае студыі для гукаізаляцыі) ідуць на Менскую ды іншыя птушкафабрыкі зь Віленскай фабрыкі валаконных вырабаў. Бліжэйшая аналягічная прадукцыя — у Львове, але ж там сваіх курэй хапае.

Віленская фабрыка валаконных вырабаў залічаецца да прадпрыемстваў лясной прамысловасьці Літвы. Усе яны меліся ў 1990 г. атрымаць зь Беларусі паставак на 4334,3 тыс. руб. (у т. л. — клей, ляк, карбамід), а на Беларусь паставіць вырабаў на 11359,8 тыс. руб. Гэта — электраграфічная, электрастатычная, ізаляцыйная папера, валаконныя пліты, тэлетайпная стужка, усемагчымыя гатункі кардону, тысяча тонаў тары, мэдыцынскі алігнін, а нават 743 тоны туалетнае паперы. Так што паўстае пытаньне, што ж будуць разьвешваць (пардон, усе мы людзі) у адпаведных кабінках ЦК КПБ, калі блякада ня спыніцца. Вось такія справы толькі ў адной галіне.

Такім чынам, маем выбар. Першы варыянт — гаспадарчыя сувязі Беларусі зь Літвою (насуперак жаданьню Літвы) абрываюцца, што прыводзіць да дэстабілізацыі ў многіх галінах беларускае эканомікі, да матар'яльных стратаў і беспрацоўя. Вырастае кітайскі мур мяжы, Літва шукае контрагэнтаў «там», мы, беларусы, трацім беспасярэдняе выйсьце на Балтыку, а народы Ўсходняе Эўропы ад Эстоніі да Малдавіі губляюць блізкую пэрспэктыву стварыць агульны балтыйска-чарнаморскі рынак — найлепшы сродак выйсьці цэлымі зь імпэрскага развалу й процістаяць якім хаця вялікадзяржаўнікам. Затое намі надта задаволеная Масква.

Другое выйсьце—захаваўшы ўсе сувязі зь Літвою, перавесьці іх на здаровую рынчачную аснову. Пакінуць мяжу пранікальнаю — і дзеля эканамічнае дзейнасьці, і дзеля культурна-нацыянальнае працы сярод беларусаў Віленшчыны. Між іншым, гэтае выйсьце ўжо абралі тыя, на каго ціснуць няўмольныя эканамічныя законы— некаторыя кіраўнікі беларускіх прадпрыемстваў ды сельскіх гаспадарак. Яны шукаюць нефармальных спосабаў захаваць хаця якія повязі зь Літвою і плююць на палітвыхаваўчыя акцыі Масквы. Ну, а бэнзын у бак літоўскае машыны ўсё адно трапляе — празь беларускага перакупшчыка.

Масква ў адказ на просьбы вылучыць сродкі дзеля перасяленьня чарнобыльскіх ахвяраў каторы раз сказала «НЕ». Сёньня бараніць беларускі інтарэс — гэта значыць навучыцца казаць «НЕ» Маскве. Новы прэм'ер Беларусі Вячаслаў Кебіч — вядома, не Тадэвуш Мазавецкі. Але, як на беларускія варункі, ён мае імідж прагрэсіста й чалавека практычнага. Яму трэба думаць пра збоі рытму вытворчасьці, пра вымушанае беспрацоўе на беларускіх прадпрыемствах. Пра тое, што, выселіўшы людзей з зоны, мы ня бу-

(Далей глядзі стар. 12)




Менск. 26. IV, Пляц Волі.

Фота Алеся Крыштаповіча

# ПАДЗЕІ

«Мы, пісьменьнікі Беларусі, вітаем і падтрымліваем справядлівае імкненьне літоўскага народу да незалежнасьці. Мы абураныя тымі дзеяньнямі з боку кіраўніцтва СССР і БССР, якія супярэчаць ідэям гуманізму, маральнасьці і чалавечага права народу самому вырашаць свой лёс, а таксама Хельсінскаму пагадненьню пра непарушнасьць межаў. Выказваем упэўненасьць, што здаровы сэнс пераможа, і літоўскі народ атрымае доўгачаканую свабоду. Спадзяемся, што Ўрад Літоўскае Рэспублікі забясьпечыць усе правы карэннага беларускага насельніцтва Літвы, захаванасьць і даступнасьць беларускай гістарычнай і культурнай спадчыны ў Літве.

У Вашых высакародных памкненьнях мы з Вамі.

Жыве свабодная Літва!»

Зварот падпісалі: Ул. Арлоў, М. Арочка, А. Асташонак, І. Багдановіч, Р. Барадулін, Л. Баршчэўскі, А. Бембель, Д. Бічэль-Загнетава, І. Бурсаў, В. Быкаў, А. Вольскі, Л. Галубовіч, А. Глёбус, Ул. Дамашэвіч, А. Дракахруст, А. Емяльянаў, І. Жарнасек, В. Жуковіч, В. Іпатава, С. Кавалёў, П. Ламан, А. Мінкін, Л. Паўлікава, М. Пракаповіч, В. Сёмуха, Ул. Сіўчыкаў, С. Сокалаў-Воюш, А. Сыс, А. Сямёнава, К. Тарасаў, В. Чамярыцкі, К. Шэрман, Ул. Ягоўдзік.

* * *

Дарэчы, зь пісьменьніцкага асяродку паведамляюць, што за апошні час выйшлі з КПСС беларускія літаратары С. Шупа, К. Тарасаў, А. Казловіч, Ул. Арлоў, М. Дубянецкі...

* * *

Ухвалу пра савецка-літоўскія дачыненьні прыняў I траўня і Першы Зьезд незалежных рабочых рухаў і арганізацыяў у Навакузьнецку:

«I-ы Зьезд незалежных рухаў і арганізацыў заяўляе пра разуменьне палітычных працэсаў у братняй Літве.

Шкадуем, што ініцыятыва прымяненьня сілавога ціску, у тым ліку і эканамічных санкцыяў, скіраваных супраць шматнацыянальнага народу Літвы, зыходзіць ад Прэзыдэнта СССР на фоне ягоных жа заклікаў да негвалтоўнага ўрэгуляваньня міжнародных і міжнацыянальных канфліктаў і непаразуменьняў.

Зыходзячы з прынцыпаў рабочай салідарнасьці ды сацыяльнай справядлівасьці Зьезд патрабуе неадкладнага спыненьня эканамічнай і палі-

(Далей глядзі стар. 16)

УЛАДЗІМЕР АРЛОЎ

# АПЭРАЦЫЯ «ПРУСАКІ»

## сёмыя угодкі сьмерці Ларысы Геніюш

Яшчэ і цяпер у зімовую раніцу, у тыя колькі хвіляў сьці шанага існаваньня паміж явою і сном, я магу зьнячэўку ўсьцешана падумаць: перад Калядамі паеду да Бабулі.

Так мы называлі яе між сабою ў гаворках, у лістах і ў тэлефонных перамовах — зь любасьцю, а таксама (уважаючы на «товарища майора») з асьцярогаю. Зрэшты, мяркую, «товарищ майор» цудоўна ведаў, што Бабуля — гэта Ларыса Антонаўна Геніюш.

Мо калі-небудзь я напішу пра ўсё гэта падрабязьней. Пра тое, як мы зь Сержуком Сокалавым грэліся пасьля марознае дарогі ля печкі, і Бабуля, што кагадзе ўзрадавана называла нас «сакалянятамі і арлянятамі», раптам нядобра блiснула вачыма: «А хто вас, хлопчыкі, да мяне прыслаў?» Пра бандэролькі зь лекамі для еймага хворага сэрца, якія па два месяцы ішлі з Наваполацка ў Зэльву. Пра тое, як пасадзіўшы нас за шчодры стол, яна падымала кілішак са сваім улюбёным цытрынавым лікёрам і, зьвяртаючыся непасрэдна да электраразэткі, казала: «Выпьем за нашего дорогого Леонида Ильича!» Пра тое, як праз колькі хвілінаў пасьля прыезду гасьцей у хаце неадменна зьяўлялася ўвішная медсястрычка, якая рабіла Ларысе Антонаўне ўколы тых самых (дай Бог!) лекаў і якую ў гэты дзень ужо марна чакалі ўсе астатнія зэльвенскія хворыя, бо медсястрычка добра разумела, які адказны ўчастак работы даручылі ёй таварышы.

Калі-небудзь я, відаць, напішу, як зьневажалі яе зэльвенскія настаўнікі. Як яна дасылала лісты Машэраву і якія атрымлівала адказы. Як угаворвалі яе прыняць савецкае грамадзянства, а яна ўпарта хацела заставацца грамадзянкаю Беларускае Народнае Рэспублікі. Як, пахаваўшы мужа, яна жыла са сваім сабачкам Жуком у абторканай мікрафонамі і абкружанай сьцяной падазронасьці і нянавісьці хаце, «Ні адзін народ так не прыніжаў сваіх паэтаў, сваіх жанчын», — напісала яна ва ўспамінах.

Калі-небудзь я распавяду, кім была яна для нас у тыя гады.

Сёньня ж найперш прыгадваецца іншае: складзеныя на грудзях васковыя рукі, увачавідкі сьсівелы ад гора Жук ля труны з гаспадыняю, твары Зянона Пазьняка, мастака Яўгена Куліка, гісторыка Міхася Чарняўскага, які за год да гэтага, шмат чым рызыкуючы, вывез з Зэльвы Бабуліну «Споведзь», што цяпер друкуе часопіс «Маладосьць»...

У краіне незалежнай, дэмакратычнай і культурнай разьвітаньне з адной з найталенавітых яе паэтак сталася б днямі народнага смутку. У нас, на Беларусі, гэтая журботная падзея прайшла непрыкметна, бо амаль ніхто проста ня ведаў ні пра паэтку, ні пра яе сьмерць, а калі б і ведаў, дык большасьці ўсё адно было б «да ліхтара». Ну а што тычыцца беларускае інтэлігэнцыі, дык яе ў тыя красавіцкія і, дарэчы, выхадныя дні апанавала пошасьць раптоўных хваробаў, сумеры якой можна параўнаць хіба што з колькасьцю тэрміновых камандзіровак, маршруты якіх пралягалі дужа далёка ад Зэльвы.

Тым часам там, дзе трэба, выпісвалі камандзіроўкі менавіта ў Зэльву. І ўсё-ткі на кожнага, хто прыехаў хаваць Паэта, прыпала, здаецца, не болей чым па двое падсуседзяў. Далібог, гэта былі неблагія суадносіны, і няхай выбачаюць тыя, каго я не ўзгадаю.

З Наваполацка прыехаў ін-

# Што скажуць Буш і Кебіч?

(Працяг са стар. 8)

дзем спажываць брудныя прадукты, але ж сваіх чыстых можа не хапіць, а Масква ня дасьць, бо ўсё жыцьцё ў нас брала — а можа даваць якраз Літва. І таму ён мусіць сказаць «НЕ» маскоўскай аблозе Літвы, што б пра гэта ні думаў Яфрэм Сакалоў (таксама — ня Войцех Ярузэльскі).

Блякада Літвы зараз вядзецца рукамі Беларусі — адзінай падуладнай Маскве літоўскай суседкі (калі не лічыць недарэчнай Калінінградзкай вобласьці). І найлепшым крокам дзеля Беларусі, дзеля разьвязаньня літоўскага крызісу зараз былі б грунтоўныя, усебаковыя перамовіны ўраду Кебіча з урадам Прунскене. Калі са спадарыняй Казімерай палічыў важным спаткацца Джордж Буш, дык, пэўне, суседу гэта варта зрабіць пагатоў.

А нашым новаабраным Саветам — Вярхоўнаму, гарадзкім (Радамі яны яшчэ не заслужылі звацца) — раю пацікавіцца, колькі нашая Рэспубліка і яе гарады ўжо страцілі й страцяць яшчэ на аблозе. І найважнейшае. На нашай зямлі, аказалася, ёсьць краны і кранікі, адкручваць і закручваць якія права мае адно маскоўскі дзядзька. Сёньня ён закруціў іх Літве. А заўтра?

То ж бо то.

Гэта мусяць ведаць і Буш, і Кебіч.

Вінцук ВЯЧОРКА

жынер Вінцэсь Мудроў з Менска — археолягі Ігар Чарняўскі і Валеры Шаблюк, а таксама дырэктар акадэмічнага Музею старажытнабеларускае культуры Вольга Церашчатава з калежанкамі. Вянок ад Саюза пісьменьнікаў Беларусі прывезьлі Вольга Іпатава і Адам Мальдзіс. З Гародні прыехала Данута Бічэль зь сябрамі, са Жлобіна — былы лягернік Мікола Канаш, якога мы зь Вінцэсем (даруйце нам, дарагі Мікола Імполевіч) прынялі ў цягніку за чалавека з канторы.

Сапраўдныя ж людзі ў цывільным прыбылі на машынах зь менскімі, гарадзенскімі і берасьцейскімі нумарамі. Яны няўтомна шпацыравалі па вуліцы, хадзілі пад вокнамі, згуртаваным натоўпам стаялі ў часе адпяваньня нябожчыцы ў царкве, перапісвалі зьвесткі аб прыежджых у зэльвенскім гатэльчыку. Ня ведаю, чаго ў падсуседзкіх позірках было болей: удзячнасьці да нас, «недобитых националистов», што неяк пацьвярджалі неабходнасьць іхняга існаваньня і дапамагалі атрымліваць новыя званьні і ўзнагароды, гэтае ўдзячнасьці, або прыкрасьці, што «главная националистка» і тут нашкодзіла: памерла акурат так, каб у іх прапалі выхадныя.

Далікатнасьць падсуседзяў ня ведала межаў. Калі сын Ларысы Антонаўны, беластоцкі літаратар Юрка Геніюш прыцішана чытаў мне зь сябрамі на ганку свой верш «Чаму я чорны, мама?», двое ў цывільным падышлі да яго амаль усутыч і сталі за плячыма. Хацелі закруціць «выкормышу» рукі і кінуць у варанок? У аднаго зь іхніх калегаў, нястомнага фатографа з партрэтным аб'ектывам, Вольга Іпатава запыталася, які орган друку ён прадстаўляе, і той замест адказу шчоўкнуў і яе.

Цікава, як называлася ў іх тая апэрацыя? «Крыж»? Ці мо якая-небудзь «Незабудка»? Ці «Прусакі», як назваў бы яе я сам? Але як бы яна ні звалася, увесь плян ейным кіраўнікам выканаць не ўдалося: спроба ўгаварыць ці змусіць везьці труну і вялікі драўляны крыж на могілкі на машыне былі марныя. Увесь няблізкі шлях да зэльвенскіх кладоў труну несьлі на руках. Сьледам ішла ўся Зэльва. Белчырвона-белых сьцягоў не было. Да іх мы тады яшчэ не дарасьлі.

Над сьвежаю магілаю я прачытаў напісаны на сьмерць паэткі верш Сержука Сокалава, які яшчэ не пісаў песень і ня меў у прозьвішчы ваярскага прыдомку, але Воюшам ужо быў.

Гучала лера
мілагучным ранкам,
Каб сьпевам вольнай
Бацькаўшчыны стаць.
Каб Вашы песьні
вечная Зэльвянка
Магла вякамі
голасна пяяць.
Вясновы вецер
сьлёзы нам астудзіць,
І зубы сьцяць шчэ
прыдзецца ня раз,
Каб голасна сказаць
на поўны грудзі:
Над памяцьцю ня мае
ўлады час.
Пасьля нягод,
чужыны, ператрусак,
Пасьля таго, пра што
маўчаць гады,
Вы здолелі між іншых
беларусак
Застацца Беларускай
назаўжды.



Ларыса ГЕНІЮШ

* * *

Памёр паэт сягоньня
цёмнай ноччу.
З вачэй народа сьлёзы
паплывуць...
А халуі вось паміраць
ня хочуць,
А халуі другі свой век
жывуць.
Згарае той, каму агонь
даступны,
Той узьлятае, хто
адкінуў страх,
Той не згарыць, хто
поўзае на пупе,
Хто ліжа бот, той
для жыцьця ўжо прах!
Хто гне хрыбет, хто
поўзае, хто сьлізкі —
Дастойны брат за ім
не папаўзе,
Адкіне ён, як гадзіну,
падлізу.
Жаль, на падлізаў нам
яшчэ вязе...
Паэты мруць, а плодзяцца
такія,
Якім вачэй да сонца
не падняць,
На боль братоў сьляпыя
і глухія,
Ім толькі бот скрываўлены
лізаць.

# ХТО БУДЗЕ ПРЭЗЫДЭНТАМ БЕЛАРУСІ?

**(Працяг са стар. 1)**

Пытаньне рытарычнае. Згадайце, колькі мітынгаў і дэманстрацый было забаронена. Згадайце наш Закон аб мітынгах і дэманстрацыях, які прыняты раней, чым у Маскве. Згадайце падзеі 30 кастрычніка. Няўжо аніхто з дэпутатаў не спытае ў грамадзяніна Сакалова: якая ваша роля ў гэтай акцыі?

Народ ішоў на могілкі ўшанаваць памяць продкаў, памяць ахвяраў. Цяпер Сакалоў і члены Бюро ЦК КПБ, каб здабыць танную папулярнасьць у народзе, нясуць вянкі ды кветкі ў Курапаты. Згадайце, як напачатку была сустрэтая публікацыя Зянона Пазьняка і Яўгена Шмыгалёва аб расстрэлах у Курапатах. Згадайце, колькі бруду вылілі ў партыйных газэтах на арганізатараў таварыства «Мартыралёг Беларусі». Згадайце, што публікацыя аб расстрэлах у парку Чалюскінцаў была забароненая і зьявілася толькі ў «Атмодзе» (Рыга). Згадайце, як штрафавалі арганізатараў мітынгу 19 чэрвеня 1988 года ў Курапатах, як партапарат ладзіў свой контрмітынг ля тэатру оперы й балету...

Цяпер дзеля здабыцьця таннай папулярнасьці ў народзе ЦК КПБ, Прэзыдыюм Вярхоўнага Савету і Савет Міністраў БССР выдаюць пастанову за пастановай аб Чарнобылі. А хто ўсе гэтыя гады хаваў ад народа вынікі выбуху? Хто забараняў летась Гадзіну Смутку і Маўчаньня? Хто пагражаў санкцыямі супраць арганізатараў «Чарнобыльскага шляху»? Толькі пад націскам грамадзкасьці, і найперш Народнага Фронту, нашая Вандэя павярнулася тварам да народнае бяды.

Толькі пад націскам грамадзкасьці, Народнага Фронту быў прыняты непасьлядоўны Закон аб мовах. А да гэтага таварыш Сакалоў недвухсэнсоўна страшыў тых, хто «спрабуе драматызаваць сытуацыю». З трыбуны пленума ЦК КПБ ён апавядаў аб росквіце беларускае культуры. І лічбу называў: 27 мільёнаў кніг на беларускай мове за 10 гадоў. І не здагадаўся падзяліць гэтыя 27 мільёнаў на 10, а дзель — на 8 мільёнаў беларусаў. 0,34 кнігі на аднаго беларуса ў год — вось які «росквіт» задавальняў таварыша Сакалова.

Яно й ня дзіва. Яшчэ калі быў першым сакратаром у Берасьці, Сакалоў загадаў зьняць плякат са словамі «Шануйце родную мову». Тады ж ён загадаў зьняць і словы Максіма Горкага «Чалавек — гучыць горда». «Савецкі чалавек — гучыць горда», — мудра ўдакладніў таварыш Сакалоў.

І вось гэты чалавек маецца стаць Прэзыдэнтам Рэспублікі — сымболем сувэрэннасьці беларускага народу, нацыі, беларускае дзяржавы.

Ён ані кроку не зрабіў, каб дэмакратызаваць нашае жыцьцё. Згадайце яго ў ролі дырыжора на сэсіі Вярхоўнага Савету, калі прымаліся законы аб выбарах. На экранах тэлевізараў мы бачылі, як ён ківаў паслухмянай бальшыні, а тыя толькі націскалі на кнопкі. Балазе, да гэтага Вярхоўны Савет СССР скасаваў акруговыя сходы. Ды рэакцыя ўзяла рэванш: права абіраць дэпутатаў пакінулі таварыствам глухіх, сьляпых, інвалідаў і вэтэранаў. Зірніце ў сьпісы: адны дырэктары і старшыні, ніводнага сьляпога, нямога, глухога, інваліда. Гэтыя абедзьвюма рукамі прагаласуюць за Сакалова.



Рымскі імпэратар Васпасіян. Вядомы тым, што ўвёў падатак на грамадзкія прыбіральні, лазьні і прастытуцыю. Яму першаму належыць выраз: ГРОШЫ НЯ ПАХНУЦЬ.

Наш народ усё аніяк не прачнецца. Таму й перамаглі на выбарах апаратчыкі. Але ёсьць і апазыцыя. Я надта спадзяюся, што яна спытае: колькі прысмакаў і дэфіцытаў паслаў грамадзянін Сакалоў у Столінскі раён, каб займець мандат? Колькі піва завезьлі на выбарчыя ўчасткі іншыя кандыдаты ад намэнклятуры?

Гэта наша ганьба, наш сорам: за піва і прысмакі людзі далі ўладу тым, хто менш за ўсё думае пра іх, тым, хто дзеля прыліку здаў народу лецішчы ў Драздах, а сам будуе сабе новыя, ня менш выгодныя, за сымбалічную цану, тым, хто за чарнобыльскія грошы ладзіць круізы ў замоскія землі. Няўжо й пра гэта не спытаюць дэмакратычныя дэпутаты?

Няўжо дэмакратычныя дэпутаты не спытаюць, што гэта за эканамічная самастойнасьць Беларусі, калі яе правялі не праз Вярхоўны Савет, як Латвія, Літва, Эстонія, а праз габінэт Стар-

шыні Дзяржпляну СССР Юрыя Масьлюкова?

Не разгневаць Маскву, дагадзіць ёй — вось прынцып менскага кіраўніцтва. 50 гадоў ня думалі пра беларусаў у Віленскім краі, аддалі літоўцам Беларускі музэй са слуцкімі паясамі, археалягічнымі знаходкамі, старажытнымі кнігамі, зборамі газэт і часопісаў, дазволілі польскім ксяндзам апалячыць значную частку беларусаў у Літве, а цяпер схамянуліся. Бо гэтак трэба Маскве, бо Гарбачоў не спыняецца нават перад дэстабілізацыяй эканамічнага жыцьця дзеля вялікадзяржаўных інтарэсаў ды амбіцый. І Сакалоў дапамагае яму ў гэтым. Але хто з апалячаных беларусаў у Літве чакае Сакалова й Дзямяньцея? Яны на Варшаву глядзяць, на Валэнсу. А тыя, хто ўважае сябе беларусам, не забыў сваю мову, — тыя таксама ня хочуць далучацца да БССР, бо пабачылі, як дбае менскае кіраўніцтва пра мову й культуру, пра годнасьць і сувэрэнітэт Беларусі. Саюзьнікамі Сакалова застаюцца тыя нашы пабратымцы, якія й родную мову забылі, і літоўскую вучыць не схацелі, якія сталі гэтак званым «русскоязычным населением».

Ці здолее сымболь сувэрэннасьці беларускага народу — Прэзыдэнт — пастаяць за беларускую школу ў Літве, за беларусаў у Польшчы, навязаць кантакты з эміграцыяй? Сумнеўна. Бо ня той чалавек, ня той аўтарытэт. Нездарма ж па дэпутацкі мандат ён едзе ў глухія куткі, абмінаючы цэнтры прамысловасьці й культуры, тыя цэнтры, дзе набірае сілу дэмакратыя. Атрымліваецца так, што прэтэндэнт на пасаду Прэзыдэнта й дэмакратыя — несумяшчальныя. Але, тым ня менш, паслухмяная бальшыня можа абраць яго кіраўніком Рэспублікі.

Што рабіць дэмакратам? Ствараць новыя партыі. Гуртавацца. Дзеля аднаго: каб кожны раз прымушаць улады йсьці на ўступкі. Практыка паказала: дэмакратычныя ініцыятывы ня могуць выйсьці зь вярхоў, пэўная дэмакратызацыя вярхоў можа адбывацца толькі пад націскам дэмасу.

З жалем канстатуеш: народ наш яшчэ не вызваліўся ад боязі, таму і Вярхоўны Савет маем такі. Але нельга судзіць народ, які зьведаў Курапаты, Хатынь і Чарнобыль. Калі я кажу пра новыя партыі і гуртаваньні, дык тут няма парадоксу. Гэта пры таталітарызьме ўсе маюць адзін твар і адну думку. Дэмакратыя — гэта разнастайнасьць інтарэсаў і думак і ўменьне бачыць гэтую разнастайнасьць. Яна закладзена ў самой прыродзе чалавека, надзеленага інстынктам свабоды. Вось новыя партыі (сацыял-дэмакратычная, сялянская, хрысьціянская ды інш.) і павінны дайсьці да розных групаў народу, абудзіць імкненьне да свабоды, дапамагчы адолець боязь і паняверку. Толькі тады народ на ўсеагульных выбарах абярэ Прэзыдэнта Беларусі, які не баіцца цэнтраў культуры й прамысловасьці, які шануе мову і традыцыі, які бароніць годнасьць і сувэрэнітэт Народу, Нацыі, Рэспублікі.

Анатоль СІДАРЭВІЧ.

## Вярхоўнаму Савету БССР
## Вярхоўнаму Савету УССР

Вярхоўны Савет Літоўскай Рэспублікі з глыбокім спачуваньнем ставіцца да жыхароў і асабліва дзяцей Беларускай ССР і Украінскай ССР, якія пацярпелі ў часе Чарнобыльскай трагедыі. Літоўская Рэспубліка па меры сваіх магчымасьцяў, абмежаваных эканамічнай блякадай, гатовая даць пацярпелым дзецям месцы ў санаторыях і дзіцячых дамах на летні пэрыяд. Акрамя гэтага, Літоўская Рэспубліка гатовая пастаўляць радыялягічна чыстыя харчовыя прадукты для дзяцей, што жывуць у заражанай зоне. Для распрацоўкі дэталёвага праекту дапамогі прапануем стварыць сумесныя рабочыя камісіі, якія маглі б неадкладна прыступіць да працы.

Старшыня Вярхоўнага Савету
Літоўскай Рэспублікі
В. Ландсбергіс.

---

Ад рэдакцыі СВАБОДЫ: Ужо цяпер усе зацікаўленыя старшыні мясцовых саветаў і выканкамаў, а таксама кіраўнікі прадпрыемстваў Беларусі могуць зьвяртацца па пералічаных вышэй прапановах да Альбертаса Шыменаса, тэл. 42-65-34 ў Вільні.

## Міліцыя адбірае дазімэтры

Людзі, якія нядаўна прыехалі ў ЗША зь Менску, а таксама з Магілева, кажуць, што міліцыя забірае ад прыватных грамадзянаў дазымэтры. Як выяўляецца, нельга мець у прыватным ужытку гэтую радыяцыйна-вымяральную прыладу. Апошнім часам шмат хто зь Беларусі піша да сваякоў і знаёмых на Захадзе з просьбай прыслаць ім дазымэтры. Прылады гэтыя набываюць таксама на Захадзе часовыя наведнікі зь Беларусі, дзе радыяцыя ад чарнобыльскае аварыі пашыраная куды больш, як гэта прызнаюць улады.

**БЕЛАРУС, № 366.**

## РАСПРАЦАВАНЫЯ ПРАЕКТЫ

— бытавога кампактнага фільтра дзеля паляпшэньня смаку і паху пітнае вады, а таксама дзеля ачысткі яе ад вадкіх харчовых прадуктаў і шкодных дамешкаў, у тым ліку радыяактыўных;

— фільтравае ўстаноўкі з такім самым прызначэньнем, але з большай прадукцыйнасьцю, дзеля бытавога й прамысловага карыстаньня.

Матарыялы даступныя, выраб — ва ўмовах звычайнай майстэрні.

Замовы кіруйце на адрас: 220012, Менск-12, п/с 126, «НТЦ», тэл. 47-92-23.

## Грамадзяне Беларусі!

15 траўня а 10.00 адкрыецца I сэсія новага Вярхоўнага Савету БССР. Яна будзе прымаць папраўкі да Канстытуцыі і выбіраць Старшыню Вярхоўнага Савету Рэспублікі. Дэпутаты павінны ведаць думку народу. Заклікаем усіх, хто можа, у дні работы сэсіі з 10.00 раніцы прыходзіць на плошчу перад Домам ураду і выказаць свае адносіны да гэтых жыццёва важных пытаньняў. Штодня а 18.00 мы будзем чакаць на плошчы нашых дэпутатаў.

**Управа Сойму БНФ.**

# ПАДЗЕІ

**(Працяг са стар. 9)**

тычнай блякады і пачатку перамоваў паміж урадамі СССР і Літвы безь якіх-небудзь папярэдніх умоваў і ў форме, якая адпавядае захаваньню ды ўмацаваньню даверу паміж народамі рэспублікаў.

Зьезд заклікае працоўныя калектывы, якія маюць гаспадарчыя сувязі зь Літвой, працягваць і паглыбляць гэтыя сувязі на груньце прамых дагаворных зносінаў.

Таварышы, толькі наша салідарнасьць з народам Літвы дазволіць стаць вольнымі як Літве, гэтак і іншым народам нашай краіны.»

У канцы гэтага паведамленьня старшыня аргкамітэту Рабочага Саюзу Беларусі запрашае ўсіх, хто жадае пазнаёміцца з рабочым рухам, прыходзіць кожную сераду а 18.00 да Дома палітасьветы (Менск, Кастрычніцкая, 5).

* * *

І яшчэ — Літва. Сталася ведама, што на бэнзакалёнках Гродзенскай вобласьці загадана не адпускаць паліва ў машыны зь літоўскімі нумарамі. Гэтак бэсэсэраўскае кіраўніцтва дэманструе сваю праслаўвутую бэсэсэраўскую гасьцінасьць. Трэба спадзявацца, што работнікі бэнзакалёнак Беларусі выкажуць гасьцінасьць сапраўдную, беларускую, і ня будуць выконваць амаральнага загаду.

* * *

Масква. Мясцовая група падтрымкі БНФ правяла 24—25 красавіка на Арбаце збор подпісаў пад лістом у Вярхоўны Савет СССР з патрабаваньнямі: адсяліць людзей з Чарнобыльскай зоны, забясьпечыць іх індывідуальнымі дазімэтрамі, дазволіць масавую эміграцыю беларусаў у Аўстралію і Канаду з гарантыямі вяртаньня па меры паляпшэньня экалягічнае сітуацыі, аддаць пад суд бязьдзейнае кіраўніцтва.

26-га красавіка група падтрымкі БНФ разам з украінцамі пікетавала Мінатамэнэрга СССР. Перадалі намесьніку міністра ліст з патрабаваньнем вярнуць 65 млн. рублёў у фонд Чарнобыля. У гэты ж дзень праведзены 2-тысячны мітынг у парку Горкага і набажэнства ля помніка Т. Шаўчэнку, якое ладзіў украінскі ўніяцкі сьвятар.

* * *

5 траўня ў Менску былі выбары ў Вярхоўны Савет БССР. У 9-ці акругах выбары не адбыліся, у 2-х абраныя прадстаўнікі партапарату. 5 дэмакратычных кандыдатаў выйшлі ў другі тур. Заклікаем галасаваць: па Серабранскай акрузе № 3 — за Г. Мухіна, па Чкалаўскай № 19 — за Л. Тарасенку, па Акадэмічнай № 27 — за Ул. Анцулевіча, па Машэраўскай № 39 — за Л. Зданевіча, па Цімашэнкаўскай № 45 — за В. Кавяровіча. Па Галадзедаўскай № 11 Пушкінскай № 40 заклікаем выкрэсьліваць абодвух кандыдатаў.

Выбарчая камісыя БНФ.

* * *

Паведамляюць, што неўзабаве насельніцтва Беларусі можа павялічыцца на 1 млн. чалавек за кошт вайскоўцаў, якія выводзяцца з эўрапэйскіх краінаў. Для іх ужо будуюць жыльлё, у тым ліку ў закрытым для чарнобыльцаў Менску.

# АБВЕСТКІ

Усе, каму дарагая справа адраджэньня Беларусі, выпісвайце, чытайце ды пашырайце беларускую газэту СВАБОДА.

Грошы й замовы на падпіску просім кіраваць на адрас: 220600, Менск, вул. Фр. Скарыны, д. 3, кв. 35 Бяляцкаму Аляксандру Віктаравічу.

Усім, хто ахвотны распаўсюджваць беларускаю газэту СВАБОДА, раім зьвяртацца па тэл. 33-18-97 (Сяргей) і 34-42-78 (Алесь).

Калі Вы жадаеце зьмясьціць Вашу рэкляму на старонках беларускае газэты СВАБОДА, зьвяртайцеся, калі ласка, па тэл. 20-96-33.

Рэдакцыя беларускай газэты СВАБОДА здыме памяшканьне для свае працы. Неабходныя варункі: тэлефон, блізка ад цэнтру. Чысьціня й парадак гарантуюцца. Тэл. 34-42-78 (Алесь).

---

Хто ахвотны весьці сталы абмен дэмакратычнае прэсы Беларусі на беларускія выданьні нашых суайчыньнікаў за мяжой, зьвяртайцеся, калі ласка да Алеся Алехніка з Аўстраліі на адрас:

Mr. A. Alechnik, 52 Edensor Road, Cabramatta NSW, 2165 Australia.


# СВАБОДА

СВАБОДА. Беларуская газэта. Выданьне Выбарчай камісыі БНФ «Адраджэньне».
Наш адрас: 220045, Менск, п/с 17.
Тэлефакс (0172) 3-4278, тэлефон 34-42-78.
Выпуск падрыхтавалі: А. Гуркоў, С. Дубавец, П. Жук.
Здадзена ў друк 10 траўня 1990.
Друкарня «Liesma»
Заказ № 6, наклад 30000, кошт 40 кап.

Atbildigais par «Metsepole» biletena pielikumu baltkrievu valoda P. Zuks.